

# Ніл ГІЛЕВІЧ
# У віры быцця

*(Запісы розных гадоў)*

## Дык жа і без вайны гінем!

Кожны дзень сто разоў чую: "Каб толькі не было вайны!" Гучыць і гучыць – як заклінанне. "Каб толькі быў мір у краіне!"

Заклапочанасць зразумелая. Канечне ж, у Беларусі павінен панаваць мір. Мір – і толькі мір! Не дай Бог ваеннае ліхалецце! Не дай Бог! Хапіла ўжо нашай зямлі, нашаму народу крывавых грымот і пажараў. Хапіла – на вечныя векі. Больш як сорак гадоў таму мною былі напісаны і абнародаваны радкі:

*Столькі зведаўшы гора, нягод,*
*Столькі слёз, і крыві, і агню –*
*Ты, Радзіма, на тысячы год*
*Заслужыла сабе цішыню.*

Так, на тысячы год. Мы хочам жыць у спакоі, у чалавечых радасцях. І мы патрабуем – ад усіх суседзяў, ад усяго чалавецтва: не рушце ўсталяваны на нашай зямлі спакой! Не рушце!

Дык чаму ж я вынес у загаловак гэтыя страшныя словы "і без вайны гінем"? Бо гінем, дарагія мае, гінем! Не як насельніцтва, не як жыхары нашай адвечнай тэрыторыі, а – як беларусы. Як нацыя, як народ. Калі не возьмемся ратаваць сябе – згінем. Бо народ жыве, пакуль жыве яго мова. "Памерла мова ў вуснах народа – памёр і народ" (Дз.Ушынскі). Не разумець гэта могуць толькі прымітыўныя недарэкі і тупіцы. Будзем глядзець праўдзе ў вочы: нашу мову свядома душаць, вынішчаюць. Падкрэсліваю: свядома. У сваіх эгаістычных мэтах.

Нехта скажа: няўжо такое страшнае становішча з беларускай мовай у Беларусі, як тут гаворыцца? Мяркуйце самі: на сёння (2016 год) ні ў адным абласным цэнтры Беларусі няма ніводнай беларускай школы! **Ніводнай!** Толькі ў сталіцы яшчэ тры-чатыры неяк "ліпяць".

Вось так, шаноўныя. Гінем і без вайны. Гінем як нацыя. Як народ. Ну, а жыхары застануцца. Але ўжо пад іншым імем…

*2016.*

## Каб дзеткі і не чулі яго…

У верасні 1989 года ў жыцці Савецкага Саюза адбылася важная падзея: Пленум ЦК КПСС прыняў платформу КПСС "Нацыянальная палітыка ў сучасных умовах" (апублікавана ў газеце "Правда" за 24 верасня 1989 г.). Помню, як звышуважліва я чытаў гэты дакумент. І чым глыбей учытваўся, тым мацней апаноўвалі мною расчараванне і песімізм. Таго, чаго чакаў, у платформе не вычытаў. А што вычытаў? А тое, што ўжо даўно набіла аскоміну і збрыдзела як фальш і дэмагогія.

Чытаю: "Особое значение приобретают вопросы национальноязыковой политики в СССР. Ее основными принципами были и остаются свободное развитие и равноправие всех языков, добровольный выбор языка обучения». Дабравольны выбар… Там жа на газеце – мой крык болю: "Дык жа ў нас гэта азначае, што беларускай мове будзе каюк! Халэмус! У нас ўратаваць мову можа толькі адзін закон: навучанне на ёй павінна быць *абавязковым* ува ўсіх і дашкольных, і школьных установах. Ува ўсіх! Без вынятку! Так і толькі так!"

Прайшло дваццаць пяць гадоў. З трагічнай перавагай няроднай мовы і ў дзіцячых садках, і ў школе. Ды што – з перавагай! З поўным засіллем няроднай мовы! З поўным выцясненнем роднага слова з вучэбна-выхаваўчага працэсу. Каб беларускія дзеткі і не чулі яго ні ў садку, ні ў школе.

Вось такі, накінуты нам на пагібель, інтэрнацыяналізм. Адкуль і кім накінуты – пытанне лішняе.

*2015.*

## Для чаго дзяржава?

Вялікі рускі філосаф Уладзімір Салаўёў на гэта пытанне адказаў калісьці прыкладна так: дзяржава існуе не для таго, кабператварыць жыццё ў рай, а для таго, каб не даць яму канчаткова ператварыцца ў пекла.

Па самым вялікім рахунку ніхто лепш – глыбей, маштабней, істотней – на гэтае пытанне не адказаў.

*2001.*

## Цытата з Канфуцыя

"Пакажыце мне, як спявае народ, і я скажу, як народам кіруюць і якая яго маральнасць!" – так усклікнуў аднойчы вялікі кітаец. Праваты гэтых слоў кожны дзень пацвярджае наша сённяшняя рэчаіснасць – сотні і сотні прымітыўных, вульгарных, пошлых "музычных" канцэртаў, якія выдаюцца за сапраўднае мастацтва. І ніхто не можа стрымаць разгулу гэтай пошасці, ніхто не можа даць ёй рады. Дык і што будзе? Што будзе? У якога Канфуцыя шукаць адказу?

*1999.*

## Агрэсія прымітыву

Вядомы ленінградскі навуковец Мікалай Скатаў (доктар навук, дырэктар Інстытута рускай літаратуры АН СССР) на старонках "Литературной газеты" (за 13 лістапада 1989 г.) піша: "Паўкультура – гэта не тое, што яшчэ не зусім культура, што дасягнула яе толькі напалову. Паўкультура супроцьстаіць культуры ў прынцыпе". І далей: "Паўкультура вядзе не наверх да культуры, а ўніз, да адзічэння. Паўкультура спакуслівая і зручная, бо з ёю ўсё дазволена. Чалавеку паўкультуры ўсё можна…" І яшчэ: "Прымітыў прымата агрэсіўны. Гэта і ў літаратуры, і ў тэатры, і ў кіно, і ў музыцы. У музыцы цяпер асабліва, і асабліва ў нас".

І так – агрэсія прымітыву ў культуры. Асабліва ў музыцы. Скатаў падкрэслівае: асабліва ў нас, у СССР. Хоць і ва ўсім свеце пачынае панаваць гэтая пошасць, аднак жа цікава ведаць: чаму яна асабліва агрэсіўная ў нас? Мы ж заўсёды ганарыліся вышэйшай эстэтычнага густу і маральнасцю нашага мастацтва. Што ж здарылася?..

Чытаю – і думаю пра сваё: як жа ў гэтым засіллі паўкультуры весці нацыянальнае адраджэнне? Як? Толькі перамагаючы паўкультуру, то бок адзічэнне.

*1989.*

## За скібачку хлеба

Знакамітая ленінградская паэтка Вольга Бергольц у сваёй "Аўтабіяграфіі" запісала: "Першы мой зборнік вершаў, выдадзены ў Ленінградзе з абедзвюма паэмамі прыкладна ў жніўні 1942 года, – у горадзе куплялі за хлеб ад 200 да 300 грамаў за кнігу. Вышэй гэтай цаны для мяне няма і не будзе". У дні, калі тысячы ленінградцаў паміралі ад голаду, за зборнічак вершаў людзі не шкадавалі аддаць 200 і нават 300 грамаў хлеба. Якой жа якасці павінна была быць паэзія, каб галодны чытач адрываў ад роту выратоўчую скібку хлеба! І як жа яна людзям была патрэбна!

Факт, я думаю, у гісторыі сусветнай паэзіі – унікальны, адзінкавы. І вельмі паказальны для характарыстыкі тагачасных савецкіх чытачоў. Так-так, савецкіх, дарагія мае, савецкіх! Як бы сёння хто ні крывіўся пры гучанні самога гэтага слова. О, якія былі ў нас чытачы паэзіі ў тыя неймаверна цяжкія, поўныя нягод і трагедый гады! Якія чытачы!..

*1989.*

## Разгром «палітычных невукаў»

Акадэмік, дацэнт і тры героі Савецкага Саюза ўчынілі разгром патрыятычнай арганізацыі беларускай моладзі "Талака" ("Вячэрні Мінск" за 21 кастрычніка 1988 г., "Эвалюцыя палітычнага невуцтва"). Як бачна з загалоўка артыкула, масцітых аўтараў асабліва абурае "палітычнае невуцтва" талакоўцаў. У чым яно перш за ўсё выяўляецца? У тым, што маладыя людзі з пашанай ставяцца да гэтак званых беларускіх калабарантаў часу Другой сусветнай вайны. У прыватнасці, іх вельмі абурыла, што талакоўцы, будучы ў Вільні, пайшлі на клады і прыбралі магілу забітага ноччу на сваёй кватэры выдатнага беларускага пісьменніка Францішка Аляхновіча. "Няўжо і магіла здрадніка Ф.Аляхновіча з'яўляецца помнікам?" – абураюцца навукоўцы і героі.

І, пракляцце! Якое цяжкае пракляцце звалілася на нас! Слаўны сын Беларусі і вялікі змагар-пакутнік за яе лепшую долю – аказваецца, здраднік! Той, хто бязмежна любіў Бацькаўшчыну і дзеля яе жыў і пісаў кнігі, – здраднік!

Дарэчы, Аляхновіча забілі не партызаны, а ворагі беларускага народа. Па камандзе з цэнтра, з Лубянкі.

*1988.*

## На жаль, гэта праўда

"Вестник РХД" (№127, 1978 г.) апублікаваў інтэрв'ю А.Салжаніцына з І.Сапіэтам, урывак з якога перадрукаваў "Московский литератор" (за 27 кастрычніка 1989 г.). Мяркуючы па ўрыўку, які я прачытаў, у інтэрв'ю знакамітага пісьменніка шмат цікавага, разумнага, справядлівага. Мяне, да прыкладу, вельмі ўразіла яго ацэнка творчасці А.Вазнясенскага. Цытую: "Сказал я Вознесенскому когда-то: «Нет у вас русской боли». Вот нет – так и нет. Не страдает его сердце ни прошлыми бедами России, ни нынешними». І як выснова: "Деревянное сердце, деревянное ухо…»

Паўтараю: "Няма русскага болю. Бо – драўлянае сэрца…"

Цяжка прыдумаць больш страшны прысуд паэту. Расійскі паэт без рускага болю? Беларускі паэт без беларускага болю? Нонсэнс! А колькі іх у нас гэтакіх – вершаробаў з драўляным сэрцам!

Наконт Вазнясенскага – на жаль, гэта праўда. Што ніяк не перашкаджае яму выдаваць свае зборнікі 200-тысячным накладам (кніга "Соблазн", Масква, «Советский писатель», 1978 г.).

*1989.*

## Пра майстэрства пісьменніка

За жыццё давялося сотні разоў чытаць думкі-разважанні наконт майстэрства пісьменніка – паэта, празаіка, драматурга. Што яно ёсць у творы, у чым яго сутнасць і яго галоўны сакрэт? Нядаўна прачытаў яшчэ адно вызначэнне – у артыкуле расійскага паэта Навума Каржавіна. На мой погляд – самае дакладнае, самае істотнае, сфармуляванае па самым вялікім рахунку. "Пісьменніку, – піша Каржавін, – перш за ўсё трэба баяцца схлусіць. Я кажу не толькі аб хлусні ва ўгоду ўладзе, але і аб хлусні ва ўгоду публіцы… (…) Уменне знаходзіць, адчуваць і гаварыць праўду – гэта і ёсць майстэрства" ("Московский литератор» за 27 кастрычніка 1989 г.).

Так: калі пісьменнік не валодае гэтым уменнем – які сэнс гаварыць пра майстэрства? Майстэрства фармальных пошукаў? У абмен таго, дзеля чаго ўвогуле існуе літаратура – гаварыць людзям праўду?

Адгэтуль трэба пачынаць усякую размову пра майстэрства, адгэтуль!

*1989.*

ЧАСТНАЯ ЖИЗНЬ

# Елена ТОНКАЧЕВА: «Занимаюсь танго и думаю о поступлении в магистратуру…»

*Правозащитницу Елену Тонкачеву предупредили: визит в Беларусь до ноября 2017 года чреват для нее тремя годами лишения свободы.*



Месяц назад Елена Тонкачева отправила электронное обращение в ГУВД Мингорисполкома об исключении ее из списка лиц, которым запрещен въезд в страну. ГУВД Мингорисполкома ответило на ее просьбу категорическим отказом.

А все началось 5 ноября 2014 года. Тогда УВД Первомайского района г.Минска приняло решение о высылке Елены Тонкачевой из страны на три года на основании якобы административных правонарушений. Правозащитница и юрист пыталась обжаловать данное решение, но, увы, безрезультатно.

В феврале 2015 года Елена покинула территорию Беларуси – улетела в Калининград. Сейчас она живет в Вильнюсе.

Конечно, ответ из ГУВД Мингорисполкома ее совсем не обрадовал.

– Честно говоря, я надеялась на положительный ответ, – *поделилась Елена Тонкачева своими чувствами с «Народной Волей».* – И писала ходатайство исходя из того, что моя дочь – гражданка Республики Беларусь, студентка; что с Беларусью связана вся моя взрослая жизнь, начиная с 14 лет; что у нас есть свое жилье, а это значит, мне есть где жить; что у меня сохраняется постоянное место работы – значит, я не собираюсь висеть на шее государства или обивать пороги биржи труда.

К тому же в последнее время достаточно громко обсуждалось, что поставлены под сомнение действия МВД по привлечению граждан к административной ответственности на основании «писем счастья». А самим МВД инициировано обсуждение об отмене административного наказания за «незначительное превышение скорости». А меня ведь официально выслали именно за это!

Кстати, когда меня высылали, то мотивировали это тем, что я представляю угрозу общественной безопасности – именно из-за штрафов за незначительное превышение скорости. При этом за год моего отсутствия в стране статистика МВД с этой точки зрения не улучшилась.

**– Лена, а чем вы сейчас занимаетесь в Вильнюсе?**

– Веду правозащитную деятельность с коллегами из белорусских и международных организаций, занимаюсь преподавательской работой по правам человека и международным механизмам их защиты, учу английский и литовский языки, думаю о поступлении в магистратуру. Еще занимаюсь танго, исследую Литву и опыт литовцев по сохранению культурного наследия, получаю удовольствие от прекрасной классической музыки, театра, джаза, знакомлюсь с новыми людьми. Все это мне приносит радость.

**Марина КОКТЫШ.**

АВТОРИТЕТНОЕ МНЕНИЕ



# Анна БОБУХ: «Тушь под маркой Max Factor можно купить за один доллар, а продать за пять…»

Существует ли в Беларуси проблема сбыта контрафактной косметической продукции? Владелица первого и крупнейшего интернет-магазина косметики в Беларуси Пудра.by **Анна Бобух** сделала чистосердечное признание…

– Для Беларуси эта проблема стоит очень остро, так как продавать подделки выгодно из-за большой дельты между закупкой и продажей, что позволяет продавцу существенно снижать цены за счет дешевой закупки, – призналась Анна. – Эти товары не имеют контроля качества, и никто не знает, какой у них состав. Меня забрасывают письмами с предложениями о закупках такой продукции, я хорошо знаю цены серого рынка. Например, тушь под маркой Max Factor можно купить за один доллар, а продать за пять. И так работают многие, особенно на рынках. Качество ужасает. Но много людей и не пробовали оригинал, чтобы сравнить.

Парфюм, который разливается в подвалах, – отдельная тема. Косметика напрямую контактирует с нашим телом, и покупка товара без документов о прохождении тестов на качество может принести существенный вред здоровью.

Ведь все мы знаем товарищей с баулами, которые ходят по офисам и продают якобы известные косметические марки, придумывая разные мифы и уверяя, что продукция высокого качества. Это развод. Сейчас нарисовался еще один миф: к нам в магазин стали поступать звонки о том, что наши сотрудники ходят по офисам и предлагают купить косметику. Это наглая ложь людей, которые хотят подзаработать на нашем имени. Покупка у нас осуществляется строго через сайт – мы не практикуем никаких походов по домам и офисам. Не верьте мошенникам!

ДУХОЎНЫ СКАРБ

# 150 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі

*(Працяг. Пачатак у №№3–14.)*

## 35. Што такое шляхта?

Гэтак называўся вайсковы стан (саслоўе) у Беларусі з XV стагоддзя. Слова "шляхта" паходзіць ад нямецкага Schlacht, што азначае «бітва». Папярэднікамі шляхты былі баяры – панцырныя, путныя, конныя. Беларускі баярын валодаў агнястрэльнай і халоднай зброяй, меў баявога каня і вайсковы рыштунак, каб у кожны момант на заклік князя выступіць у паспалітым рушанні ў «пагоню» і гнаць ворага з роднае зямлі. Багацейшы баяр (шляхціц) прыводзіў з сабою і збройную дружыну.

Шляхта нашая з XVI стагоддзя мела права на самакіраванне, выбірала соймы, суддзяў, трыбунал і кіраўніка дзяржавы – вялікага князя. Амаль усё ў нашай гісторыі, што мае дачыненне да вайсковых перамог, дыпламатычных поспехаў, навукі і культуры, літаратуры і асветніцтва, – звязана з шляхтай. Паколькі ваяваць нашай дзяржаве даводзілася вельмі часта, колькасць шляхты ў нас да канца XVIII стагоддзя дасягнула 12–13% агульнага ліку насельніцтва.

Пасля захопу Беларусі царскай імперыяй пачалося мэтанакіраванае «расшляхочванне» нашага народа. Бо бесперапынна адбываліся бунты, змовы і паўстанні супраць расійскага панавання, арганізатарамі і асноўнымі ўдзельнікамі якіх былі шляхціцы (Тадэвуш Касцюшка, Якуб Ясінскі, Стафан Грабоўскі, Тамаш Ваўжэцкі, Міхал Валовіч, Кастусь Каліноўскі, Валер Урублеўскі ды іншыя). Як вынік – масавыя высылкі, пазбаўленне «дваранства», суды і расправы. У 1831 годзе цар Мікалай I выдаў указ, паводле якога доказам шляхоцкага паходжання лічыліся *толькі арыгіналы* прывілеяў. У Беларусі, што сотні гадоў з канца ў канец гарэла ў полымі войнаў, зберагчы сямейныя архівы было, вядома ж, няпроста. Такім чынам на працягу XIX стагоддзя царскі ўрад «скараціў» колькасць нашае шляхты да пажаданых трох працэнтаў (каб было не болей, чым «дваран» у Расіі).

Тым не менш гэты стан па-ранейшаму адыгрываў галоўную ролю ў грамадскім жыцці Беларусі. Амаль усе нашы выдатныя дзеячы культуры і навукі XIX стагоддзя (Адам Міцкевіч, Ігнат Дамейка, Уладзіслаў Сыракомля, Вінцук Дунін-Марцінкевіч, Іван Чэрскі, Францішак Багушэвіч, Бенедзікт Дыбоўскі ды шмат іншых) – з старажытнай беларускай шляхты. Ёю быў створаны і ажыццяўляўся адраджэнскі рух пачатку XX стагоддзя (Браніслаў Эпімах-Шыпіла, Усевалад Ігнатоўскі, браты Іван і Антон Луцкевічы, Вацлаў Іваноўскі, Янка Купала, Алаіза Пашкевіч (Цётка), Вацлаў Ластоўскі, Карусь Каганец, Аркадзь Смоліч, Францішак Аляхновіч, Уладзімір Самойла).

Беларуская шляхта спакон веку карысталася родавымі *гербамі,* якія былі прадметамі гонару, шанавання і перадаваліся з пакалення ў пакаленне па мужчынскай лініі. Пасля Гарадзельскай уніі 1413 года, на якой адбыўся абмен гербамі (гербавае пабрацімства) паміж шляхтай Вялікага Княства Літоўскага і Польскага Каралеўства, геральдычная культура Беларусі ўлучылася ў агульнаеўрапейскае рэчышча гербавых традыцыяў і гербавага мастацтва. На пачатку XX стагоддзя беларуская шляхта мела ва ўжытку блізу 700 родавых гербаў, што аб'ядноўвалі некалькі тысяч родаў.

Шляхоцкі стан у Беларусі быў зліквідаваны бальшавікамі пасля Кастрычніцкага перавароту 1917 года. Былі апляваныя і аддадзеныя забыццю ўся яго слаўная гісторыя, традыцыі, арыгінальная культура, а таксама ўяўленні пра шляхоцкі гонар і шляхоцкую годнасць.

**Уладзімір КРУКОЎСКІ.**

## 36. Чым адметнае княжанне Аляксандра?

Вялікакняскі пасад Аляксандр з Ягайлавічаў (1461–1506) заняў у 1492 годзе пасля смерці бацькі, вялікага князя Казіміра. Адразу ж на патрабаванне ўрадоўцаў гаспадар мусіў выдаць прывілей, паводле якога абавязаўся весці дыпламатычныя зносіны з іншымі краінамі толькі пасля ўзгаднення з Панамі-Радай, сваёй воляй нічога не адмяняць, без згоды Рады не прызначаць на дзяржаўныя пасады і не звальняць з іх, распараджацца фінансамі толькі пад яе кантролем. Такім чынам, прывілей 1492 года істотна абмяжоўваў непадзельную ўладу манарха на карысць шляхты.

За Аляксандрам для Вялікага Княства пачаліся цяжкія абарончыя войны. У 1492–1494 гадах Маскоўшчына заваявала Вяземскае княства, а таксама



Вялікі князь Аляксандр. Старадаўняя гравюра.

нашыя землі ў басейне верхняй Акі і Вугры. У 1500–1503 гадах Вялікае Княства страціла 70 воласцяў і 19 гарадоў, сярод якіх былі Чарнігаў, Гомель, Бранск, Старадуб, Мцэнск ды іншыя.

З дапамогай епіскапа смаленскага Язэпа Балгарыновіча вялікі князь зрабіў спробу ўзнавіць у Княстве абвешчаную ў 1439 годзе на Фларэнтыйскім саборы царкоўную унію, каб прадухіліць канфлікты на рэлігійнай глебе. Аднак гэтыя захады не мелі поспеху.

Аляксандр меў лагодную натуру, любіў кнігі, музыку і спевы. У часе ягонага панавання культурнае жыццё пры віленскім двары віравала. Не толькі сам ён, але і яго прыдворныя (як пісар Якуб, сакратар Альберт) мелі багатыя кнігазборы.

Напрыканцы яго княжання, 5 жніўня 1506 года, наша войска на чале з Міхайлам Глінскім разбіла крымскіх татараў пад Клецкам. Вестку пра слаўную перамогу яшчэ паспелі перадаць гаспадару, які ўжо быў пры смерці.

**Павел ЛОЙКА.**

## 37. Хто такі Кастусь Астрожскі?

Канстанцін Астрожскі (1460–1530) – адзін з найбольш славутых герояў беларускай гісторыі, вялікі абаронца Айчыны. Паходзіў з роду турава-пінскіх князёў, нашчадкі якіх з канца XIV стагоддзя мелі галоўнай рэзідэнцыяй горад Астрог на Валыні. Вайсковую службу пачаў удзелам у барацьбе з крымскімі татарамі ды ў першай вайне Маскоўскай дзяржавы супраць Вялікага Княства Літоўскага. Як найбольш таленавіты вайсковы кіраўнік ва ўзросце 37 гадоў атрымаў чын гетмана найвышэйшага – галоўнага начальніка над войскам дзяржавы – і неўзабаве здабыў еўрапейскую славу.

У змаганні з крымскімі татарамі і маскоўскімі заваёўнікамі Канстанціну Астрожскаму не было роўных. Згодна з надпісам на ягоным надмагіллі, гетман 63 разы здабываў перамогі над імі. Асабліва слаўнай была перамога над амаль утрая большым маскоўскім войскам на рэчцы Крапіўне *пад Оршай* 8 верасня 1514 года.

Удалым манеўрам вывеўшы маскоўцаў пад знішчальны агонь артылерыі, К.Астрожскі вымусіў іх ратавацца ўцёкамі. Такой паразы захопнікі яшчэ не ведалі. Ад поўнага знішчэння іх уратавалі ноч ды густыя пушчы. Але і там шмат хто знайшоў свой канец, патануўшы ў балоце ці заблукаўшы ў бяскрайнім лесе.

Пра выдатную перамогу, якой Астрожскі фактычна ўратаваў краіну ад чужынскага панавання, даведалася ўся Еўропа. Ёй быў прысвечаны спецыяльны лісток навінаў, выпушчаны ў Нюрнбергу ў 1514 годзе. Аршанская бітва ўвайшла ў еўрапейскія хрэстаматыі з ваеннай гісторыі як узор удалай тактыкі змагання з намнога перасяжнымі сіламі ворага, як прыклад вырашальнага ўплыву таленту і майстэрства вайсковага начальніка на вынік баталіі.




Схема Аршанскай бітвы, якая сталася галоўнай падзеяй у вайне нашай краіны з Маскоўшчынай 1512–1522 гадоў. Разгром маскоўцаў пад Оршай маляўніча апісаны ў вядомай гістарычнай песні:

*Масква стала наракаці,*
*Места Воршу пакідаці;*
*А як з Воршы ўцякалі*
*Рэчку невялічку праклінalі:*
*«Бадай ты, рэчка,*
*сто лет высыхала,*
*Як наша слава тутака прапала;*
*Бадай ты высыхала*
*да скончэння свету*
*Што нашай славанькі*
*ўжо нету».*

Нястомна рупячыся пра належную абарону Вялікага Княства, найвышэйшы гетман не шкадаваў ні свайго жыцця, ні сродкаў ды на ўласныя грошы ставіў харугвы вершнікаў. У Еўропе Канстанціна Астрожскага называлі *«Ромулам», «Сцыпіёнам», «другім Ганібалам», «князем, найбольш вартым светлай памяці».* Гетманства гэтага «брата расійцаў па царкве, але іх страшнага ворага на пабаявішчы» стала ўзорам вайсковай чыннасці ў Вялікім Княстве.

К.Астрожскі быў таксама шчодрым мецэнатам. Багата грошай ахвяраваў ён на будаўніцтва божых храмаў у Вільні, Навагрудку, Тураве, Смалявічах. Пераканаўчымі падаюцца і меркаванні даследнікаў пра фінансаванне ім выдавецкай дзейнасці Францішка Скарыны.

**Вінцусь ГАСЕВІЧ.**
**Тэксты да ілюстрацый падрыхтаваў Зміцер САНЬКО.**

*(Працяг будзе)*

Народная Воля
http://www.nv-online.info
23 ЛЮТАГА 2016 г.

ДА ЎВАГІ!

## Забаронены шчупак

З 1 сакавіка ў Беларусі ўводзіцца забарона на лоўлю шчупака. Забарона будзе доўжыцца па 15 красавіка, а ў Віцебскай вобласці – з 9 сакавіка па 25 красавіка. Пра гэта паведамляе Дзяржаўная інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету.

Нагадаем, што, згодна з беларускім заканадаўствам, за незаконную здабычу рыбы ў перыяд забароны шкода спаганяецца ў трохразовым памеры. Так, за аднаго шчупака прыйдзецца заплаціць 1 мільён 890 тысяч рублёў. Акрамя таго, парушальнік заплаціць штраф, памер якога вагаецца ад 4,2 мільёна рублёў да 10,5 мільёна. У выпадку нанясення шкоды ў памеры 100 і больш базавых велічынь (12 і больш асобін шчупака ў перыяд забароны) надыходзіць крымінальная адказнасць аж да пазбаўлення волі на тэрмін да 3 гадоў.

**Алег СНОЎ.**

ВЯСНА ІДЗЕ!

## Беларусь сустракае першых пералётных птушак



У гэтым годзе ў Беларусі адзначаецца анамальна цёплы люты. На поўдні і захадзе краіны ўжо зусім няма снегу. А арнітолагі заўважылі першых птушак, якія вярнуліся з зімоўкі.

Так, палявых жаўрукоў ужо зафіксавалі ў Брэсцкай і Гомельскай абласцях. На Гродзеншчыне арнітолагі ўбачылі шэрых жураўлёў, шэрых гусей і прадстаўнік некаторых відаў качак. Дарэчы, у Польшчы ўжо адзначаны першыя кнігаўкі, значыць, вось-вось яны з'явяцца і ў нас.

Што ж, дзень падоўжыўся, сонца паболела, птушкі вяртаюцца… Можна сказаць, зіму перажылі!

**Дзякуй, што прачыталі матэрыялы гэтага нумара!**

**Рэдакцыя будзе ўдзячна, калі Вы патэлефануеце ці напішаце і выкажацеся наконт таго ці іншага матэрыялу, афармлення газеты, яе дастаўкі, якасці друку і іншых пытанняў.**

**Вашы меркаванні – наш творчы компас.**

**Кантактны тэлефон: 328-68-71.**

СЯМЕЙНЫЯ СУВЯЗІ

# Сваякі

*У 1960-я гады па Савецкім Саюзе хадзіў жарт: "Не имей сто друзей, а женись, как Аджубей". Сапраўды, журналіст Аляксей Аджубей, які ўзяў шлюб з дачкой Мікіты Хрушчова, зрабіў фантастычную кар'еру. А каму-небудзь з беларускіх палітыкаў і чыноўнікаў сваяцтва дапамагло дасягнуць вышынь у палітыцы, гаспадарчай сферы і культуры? "Народная Воля" адшукала некаторыя цікавыя гісторыі з жыцця айчыннай эліты.*

### Шлюб у брэжнеўскім Палітбюро

Цягам усёй савецкай гісторыі сяброўства паміж вышэйшымі маскоўскімі чыноўнікамі або нават іх кантакты па-за службай не віталіся. Падазроныя генсекі баяліся, што такім чынам супраць іх плятуцца змовы. Што тут ужо казаць пра сваяцтва! Але ў кожнага правіла існуюць выключэнні.

У 1965 годзе лідара БССР **Кірылу Мазурава** перавялі на павышэнне ў Маскву, дзе ён стаў першым намеснікам старшыні ўрада і членам Палітбюро. Разам з бацькам у сталіцу СССР пераехала сям'я: жонка і дзве дачкі – 17-гадовая Наталля 15-гадовая Алена. Праз пэўны час Наталля пачала сустракацца з **Уладзімірам Капітонавым.** Бацька апошняга, **Іван Капітонаў**, цягам усіх гадоў "застою" з'яўляўся сакратаром ЦК КПСС і адказваў за прызначэнне кадраў. Маладыя пабраліся шлюбам.

Наталля Капітонава.

Сваяцтва з верным брэжнеўскім паплечнікам не дапамагло Мазураву: у 1978 годзе яго пасля канфлікту з "дарагім Леанідам Ільічом" накіравалі на пенсію. Паводле адной з версій, Кірыл Трафімавіч у кулуарах дазволіў сабе засумнявацца, ці варты Брэжнеў чарговай, трэцяй па ліку, зоркі Героя Савецкага Саюза. Капітонова адправілі ў адстаўку ўжо пры Гарбачове.

Але шлюб яго дачкі аказаўся мацнейшы за палітычную кан'юнктуру. Паводле звестак на сярэдзіну 2000-х, Уладзімір Капітонаў працаваў намеснікам кіраўніка прэс-службы Маскоўскай гарадской думы. А вось Наталля Капітонава абараніла доктарскую дысертацыю па гісторыі. Яна дагэтуль выкладае ў МГІМО і з'яўляецца адным з вядучых спецыялістаў па знешняй палітыцы Вялікабрытаніі.

### Сваяк Машэрава – шэф КДБ

Цікава, што ў **Пятра Машэрава**, як і ў Кірылы Мазурава, таксама нарадзіліся дзве дачкі. Прычым іх таксама звалі Наталля і Алена!



Пётр Машэраў і яго дочкі.

Наталля Машэрава.

Наталля працавала ў БДУ, была прэзідэнтам Беларускага саюза імя П.Машэрава "Зніч", які аказваў дапамогу ахвярам Чарнобылю. На пачатку 1990-х гэта арганізацыя выступала адным з сузаснавальнікаў першага "Славянскага базару".

Праз дачку Машэраў стаў сваяком старшыні КДБ БССР **Васіля Пятрова** (займаў гэту пасаду ў 1959–1970 гадах). Як сцвярджае журналіст **Славамір Антановіч**, пасля разводу з першым мужам Наталля ўзяла шлюб з сынам Пятрова. У іх нарадзілася трое дзяцей, ёсць сямёра унукаў (дарэчы, двое з іх – блізняты).

### Як дзядька і пляменнік партыю не падзялілі

Апошнія 20 гадоў палітык **Сяргей Калякін** знаходзіцца ў апазіцыі. А вось у 1996 годзе ён лічыўся адным з самых уплывовых палітыкаў. Партыя камуністаў Беларуская, якую ён узначальваў, сфарміравала буйную фракцыю ў Вярхоўным Савеце 13-га склікання. Калякін прэтэндаваў і на пасаду спікера, але саступіў **Сямёну Шарэцкаму**.

Безумоўна, гэтых поспехаў Сяргей Іванавіч дасягнуў самастойна. А вось старту кар'еры, як мяркуе хто-ніхто, мог паспрыяць дзядзька **Мікалай Дземянцей** – сакратар ЦК КПБ па сельскай гаспадарцы (1979–1989) і спікер Вярхоўнага Савета 12-га склікання (1990–1991). Распад СССР 39-гадовы Калякін сустрэў на пасадзе першага сакратара Савецкага райкама КПБ горада Мінска. Праўда, сам Калякін адмаўляе факт якой-небудзь дапамогі: *"Што тычыцца пратэкцыі бацькоў або іншых сваякоў у прынцыпе, то ў нашай сям'і гэта было проста немагчыма. Я ж у Мінскім радыётэхнічным інстытуце пачынаў вучыцца на вячэрнім аддзяленні, на дзённае паступіць не змог. Пасля першага курса сышоў на два гады тэрміновай службы ў войска. Вярнуўся на студэнцкую лаву і толькі пасля трэцяга курса пераведўся на дзённае аддзяленне"*.

Цікава, што дзевяць гадоў таму, у 2006-м, паміж дзядзькам і пляменнікам прабегла чорная кошка. Разам з іншымі былымі савецкімі партыйцамі (напрыклад, экс-прэм'ерамі БССР **Аляксандрам Аксёнавым** і **Міхаілам Кавалёвым**) Дземянцей падпісаў ліст, у якім заклікаў да аб'яднання дзве камуністычныя партыі: апазіцыйную Партыю камуністаў Беларускую (ПКБ), якую ўзначальваў яго пляменнік, і прадзяржаўную Камуністычную партыю Беларусі (КПБ). Прычым на платформе КПБ. Калякін змог адстаяць сваё дзецішча. Пазней Дземянцей заявіў, што не размаўляе з пляменнікам. А вось той выказваўся пра дзядзьку з павагай.

### Дачка – пісьменніца, унук – фігурыст

Кар'ера **Аляксандра Радзькова**, лідара "Белай Русі" (а ў мінулым – міністра адукацыі і першага намесніка кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта), пачыналася ў Магілёўскім педагагічным інстытуце (цяпер Магілёўскі ўніверсітэт імя Куляшова). Радзькоў стаў яго рэктарам, абараніў доктарскую дысертацыю па педагогіцы. Цікава, што яго дачка **Наталля Ігнаценка** таксама звязала лёс з працэсам навучання. Яна выкладчыца музыкі і спеваў у адной з маскоўскіх пачатковых школ. Таксама Ігнаценка спрабуе свае сілы ў літаратуры. Спачатку ў яе выйшла кніга паэзіі, разлічаная на дарослую аўдыторыю. Прычым настаўнікам Наталлі можна лічыць самога Аляксандра Міхайлавіча. Як яна прызнавалася ў адным з інтэрв'ю, *"яшчэ мяне выдатна натрэніраваў на паэзію ў дзяцінстве бацька – мы часта гулялі з ім у бурымэ, калі трэба рыфмаваць словы"*.

Наталля Ігнаценка.



Павел Ігнаценка.

Пазней Ігнаценка напісала некалькі кніг для дзяцей. Адна з іх называлася "Как два брата спортсменами стали". Прататыпам галоўнага героя быў яе сын і ўнук Радзькова **Павел Ігнаценка**, які выступае за зборную Беларусі па фігурным катанні. Летась ён заняў 21-е месца на чэмпіянаце Еўропы, а вось сёлета туды не трапіў (на першынство паехаў яго калега, які выйграў чэмпіянат Беларусі). Апроч таго, Ігнаценка з'яўляецца адным з герояў свецкай хронікі. Летась прэса пісала пра яго магчымы раман з **Адэлінай Сотнікавай**, алімпійскай чэмпіёнкай 2014 года ў жаночым адзіночным катанні. Іх сумесныя фотаздымкі з'явіліся на старонцы Сотнікавай у сацыяльнай сетцы. Сама дзяўчына ніяк не каментуе чуткі, настойваючы, што яны з Паўлам – толькі сябры.

### Сын машэраўскага міністра – намеснік Макея

У савецкія часы чыноўнікі займалі свае пасады не год – дзесяць! Але **Юрый Міхневіч** адназначна з'яўляецца адным з рэкардсменаў: ён стаў міністрам культуры БССР у лістападзе 1971-га і займаў гэтую пасаду цягам 18 гадоў. Яго сын, **Аляксандр Міхневіч**, мае шанцы працягнуць міністэрскую традыцыю сям'і.

Аляксандр Міхневіч.

Калі Юрый Міхневіч стаў міністрам, яго сын з'яўляўся студэнтам Маскоўскага інжынерна-тэхнічнага інстытута. У інтэрв'ю газеце "Культура" (адзіным, дзе гаворка ішла пра сваяцкія стасункі) Аляксандр Юр'евіч расказваў пра бацьку праз прызму яго пасады: *"Падчас маёй вучобы ў маскоўскай ВНУ бацьку прызначылі на міністэрскі пост. Зразумела, ён стаў часта наведвацца ў саюзную сталіцу па рабочых справах. Дык вось, я не памятаю ніводнага выпадку, каб мы сядзелі ўвечары ў рэстаране (хаця мне, галоднаму студэнту, можа, гэтага і хацелася). Ён жа складаў план: "Сёння пойдзем на прэм'еру ў Вялікі, заўтра нас чакаюць "Сталевары" ў МХАТ, праз тры дні будзем на Таганцы, бо нам трэба абавязкова паглядзець "Гамлета" з Высоцкім, дый "Юнону" і "Авось" нельга прапусціць у «Ленкоме". І ў кожны прыезд мы з ім хадзілі па тэатрах"*. Зрэшты, у інтэрв'ю маецца адзіная згадка, што Міхневіч-малодшы ўжо тады далучаўся да вялікай палітыкі: *"Калі тату неабходна было падрыхтавацца да выступлення, напрыклад, на пленуме ЦК партыі ці да справаздачнага бюро ЦК, то ён раіўся з намі, асабліва з жонкай Раісай Яраслаўцавай"*.

Аляксандр Міхневіч пачаў кар'еру на "Інтэграле", але ўжо праз год перайшоў на камсамольскую працу. Далей яго чакала вучоба ў маскоўскай Акадэміі знешняга гандлю, праца ў навукова-даследчым інстытуце пры беларускім Дзяржплане, у Міністэрстве лёгкай прамысловасці, канцэрне "Беллегпрам"… З 2000 года лёс Міхневіча звязаны з айчынным МЗС: намеснік міністра, пасол у Вялікабрытаніі. З 2012 года, калі МЗС узначаліў **Уладзімір Макей**, Міхневіч з'яўляецца яго першым намеснікам.

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ.**

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ



## Эдуард ЗАНКОВЕЦ: «В «Чикаго» меня всё устраивает»

*Бывший главный тренер сборной Беларуси по хоккею Эдуард Занковец рассказал «Народной Воле» о своем новом месте работы в клубе НХЛ «Чикаго Блэкхокс» и оценил сезон минского «Динамо».*

В прошлом году экс-главный тренер сборной Беларуси **Эдуард Занковец** вошел в штат скаутов действующего обладателя Кубка Стэнли «Чикаго».

«*Работа непривычная, но интересная*», – говорит белорусский специалист.

**– Как вы попали в «Чикаго»?**

– Барри Смит, вместе с которым я работал в Санкт-Петербурге, пригласил меня в качестве тренера в лагерь новичков «Чикаго». Там и поступило предложение войти в штат скаутов клуба. Долго не думал и сегодня ни о чем не жалею, хотя работа новая по своей специфике. На сегодня меня все устраивает.

**– Что входит в ваши обязанности?**

– Подбор талантливых игроков, которые могут пополнить состав «Чикаго».

**– Основное время где проводите?**

– В Минске и в России. Моя зона ответственности – это Континентальная хоккейная лига, так что часто бываю дома, выезжаю на матчи, которые интересуют, в Россию.

**– Присмотрели уже кого-то для «Чикаго»?**

– Присмотрел, но это пока секретная информация.

**– Вы наверняка следили за выступлением минского «Динамо», которое в этом сезоне не попало в плей-офф. Что, на ваш взгляд, не получилось?**

– По ходу сезона у любой команды есть моменты, когда что-то не получается, есть ошибки, которые нужно исправить. Но в минском "Динамо" не было спортивного управления, и, соответственно, заниматься проблемами тоже оказалось некому.

**– Имеете в виду аресты руководителей клуба Максима Субботкина и Владимира Бережкова? Это повлияло на слабое выступление команды?**

– Я не могу со стопроцентной уверенностью утверждать, что аресты повлияли на результат, но не было в команде человека, который бы оперативно управлял процессом «реабилитации» команды.

**– Некоторые утверждают, что в предсезонный период была «провалена» физподготовка игроков…**

– Это полная ерунда! Нельзя брать какой-то один момент и говорить, что именно это не позволило «Динамо» попасть в плей-офф. Любой недостаток можно устранить по ходу сезона, если есть люди, которые видят ошибки. Спортивное управление оказалось самым слабым звеном с команде. И оно порвалось.

**– В следующем сезоне в «Динамо» собираются сократить количество легионеров…**

– Я думаю, даже в этом сезоне «Зубры» могли бы справиться с пятью легионерами, поэтому не вижу здесь большой проблемы. А вообще, я приверженец того, чтобы на хоккейной площадке было больше белорусов. И ребята доказывают, что они тоже могут показывать результат.

**– В последнее время стало практиковаться получение иностранными хоккеистами белорусского гражданства. Вы это приветствуете?**

– Если это продуманное решение и человек на самом деле горит желанием выступать за сборную Беларуси, то почему бы и нет? Я не вижу в этом ничего плохого…

**Алесь СИВЫЙ.**

ГАСТРОЛЬ

## Алена ВАРАБЕЙ: «Заўсёды з гонарам кажу, што Беларусь – мая радзіма!»

*Нядаўна заслужаная артыстка Расіі Алена Варабей выступіла на сцэне Палаца культуры ААТ «Полацк-Шкловалакно».*

– Мая Беларусь – гэта перш за ўсё горад Брэст, які я памятаю яшчэ не такім глянцавым, якім ён зараз з'яўляецца, – *сказала артыстка журналістам перад выхадам на сцэну.* – Той стыль, які горад набыў за апошнія дзесяцігоддзі, адпавядае лепшым еўрапейскім стандартам.

Полацк я адкрыла для сябе яшчэ падчас мінулага візіту, калі наведала Спаса-Еўфрасіннеўскі манастыр. Гэтая святыня – жамчужына для ўсяго хрысціянскага свету. Полацк – гэта пацалаваная Богам зямля, якая прыводзіць мяне ў святое трапятанне.

На мой погляд, самыя добрыя і гасцінныя людзі – беларусы. І я заўсёды з гонарам кажу, што Беларусь – мая радзіма!

*Нагадаем, што Алена Варабей нарадзілася ў Брэсце, скончыла школу і музычнае вучылішча, а затым паступіла ў Ленінградскі тэатральны інстытут.*

**Вера ВІР.**



ШАШКІ

## Вынікі чэмпіянату Беларусі

Падведзены вынікі 18-га чэмпіянату Беларусі па шашачнай кампазіцыі. У гэтым годзе ён ладзіўся на 64-клетачнай дошцы. 17 аўтараў прапанавалі на першынство 282 кампазіцыі. На гэтым чэмпіянаце ўпершыню з'явілася катэгорыя "бразільская версія". Трэба адзначыць, што гэты эксперымент старшыні беларускай камісіі па шашачнай кампазіцыі Віталя Варушылы быў удалы. Вось вынікі чэпіянату:

**"Праблемы-64":** 1-е месца – **Пётр Шклудаў** (Наваполацк); 2-е месца – **Аляксандр Кагоцька** (Бабруйск); 3-е месца – **Мікалай Ляшкевіч** (Мінск);

**"Мініяцюры-64":** 1-е – **Дзмітрый Качыцкі** (Магілёў); 2-е – **Аляксандр Кагоцька** (Бабруйск); 3-е – **Аляксандр Сапегін** (Хадасы, Мсціслаўскі раён);

**"Дамачныя праблемы-64":** 1-е – **Дзмітрый Качыцкі** (Магілёў); 2-е – **Пётр Шклудаў** (Наваполацк); 3-е – **Віталь Варушыла** (Мінск).

**"Эцюды-64":** 1-е – **Пётр Шклудаў** (Наваполацк); 2-е – **Дзмітрый Качыцкі** (Магілёў); 3-е – **Аляксандр Кагоцька** (Бабруйск).

Першым чэмпіёнам Беларусі па кампазіцыі "бразільскай версіі" стаў наш чытач **Іван Наўроцкі** з Мінска. 2-е месца – **Аляксандр Сапегін** (Хадасы, Мсціслаўскі раён). 3-е – **Віталь Варушыла** (Мінск).

"Задачы-64": 1-е – **Мікалай Зайцаў** (Баранавічы); 2-е – **Аляксандр Шурпін** (Івянец); 3-е – **Мікалай Баброўнік**.

## Нашы госці

Да вашай увагі прапануюць свае творы нашы госці.

**Генадзь Андрэеў**(Латвія).

№1 **Белыя**: 44, 39, 34, 29, 30, 22, 24, 17, 19, 12, 14 (11).

**Чорныя**: 45, 37, 40, 35, 25, 16, 13, 8, 3 (10).

11, 9, 9, 40(25:43**А**), 4(35:44),50 х **А**(35:33), 4, 50 х.

Два нескладаныя камбінацыйныя эцюды расійскага майстра **Юрыя Голікава** прапануем рашыць самастойна. Патрэбна знайсці выйгрыш за белых пры іх першым ходзе.

№2 **Белыя**: 43, дамкі 15, 49 (3). **Чорныя**: 8, 11, 31, дамкі 47, 16 (5).

№3 **Белыя**: 43, дамкі 26, 48, 49 (4). **Чорныя**: 8, 18, 28, дамкі 12, 16 (5).

Наш пастаянны чытач з Івянца **Аляксандр Шурпін** прапануе да вашай увагі сваю задачу на 100-клетачнай дошцы.

№4 **Белыя**: 14, 20, 21, 23, 24, 27, 31, 39, 43, 44, дамкі 2, 19, 29, 45, 50 (15). **Чорныя:** 12, 36, дамкі 3, 16 (4). Белыя пачынаюць і пазбаўляюць ходаў шашку чорных. 22(35**А**), 39-33, 2-13, 13, 8, 18 (9). **А**(40), 34, 10, 20, 19-8, 13, 9, 20, 2-30 (25).

Барысаўскі аматар **Юрый Мурадаў** прапануе свае новыя праблемы таксама на 100-клетачнай дошцы.

№5 **Белыя**: 10, 13, 14, 20, 21, 22, 24, 26, 40, 45, 50 (11). **Чорныя**: 1, 3, 4, 15, 29, 32, 33, 39, 41, 42, 43 (11).

8, 34, 34, 16, 17, 20, 30, 40, 36(7), 21(12), 17, 41 х.

№6 **Белыя**: 16, 17, 21, 27, 31, 32, 35, 45, 50 (9). **Чорныя**: 2, 15, 23, 24, 33, 36, 42 43 (8).

28, 7, 17, 20, 40, 30, 37 х.

№7 **Белыя**: 7, 12, 19, 21, 24, 29, 33 (7). **Чорныя**: 1, 9, 22, 32, 38, 42, 43 (7).

13, 23, 18, 17, 30 х.

## Супаставім рашэнні

У задачы **Мікалая Баброўніка** №3 прыватнае пабочнае рашэнне: **А**(6), 7-11, 31-27 (замест 22-27), 48-42, 29, 4, 4-22, 26+. Яго заўважыў **Юрый Голікаў** (Цвер, Расія).

Рашэнне пазіцый **Івана Наўроцкага**:

№8 g7(h8:d4), b8(e5**А**), f4, g3, e3, g7(c3), h8(ab2, d2), c3, c5 x **А**(f6), c7, g3, e3, g7 x.

№9 dc7, h8, e7(d:f6), a5, c1, h6 x №10 ed6, f8, f4, g1:e3, b8, b4, b4, h8 x.

Першымі свае адказы даслалі **Аляксандр Шурпін** (Івянец), **Уладзімір Бандарык** (Лугавая Слабада, Мінскі раён), **Віталь Варушыла** (Мінск).

## Знайдзіце выйгрыш белых

Вядучы рубрыкі прапануе чытачам пазнаёміцца са сваімі пазіцыямі на 64-клетачнай дошцы.

Знайдзіце выйгрыш белых пры іх першым ходзе самастойна.



№10 **Белыя**: a3, c1, c3, d2, d4, e1, f6 (7). **Чорныя**: a7, e5, f4, g3, g7, h4, h8 (7).

№11 **Белыя**:c7, d6, e1, e7, f6, g7, h2 (7). **Чорныя**: a3, b2, b4, c5, e3, g5, h4, h8 (8).

№12 **Белыя**: a1, c1, d4, d6, e3, e5, f2, f4, f6, g5 (10). **Чорныя**: a5, b4, d2, d8, f8, h2, h6, h8 (8).

Свае лісты дасылайце на адрас: **220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а, "Шашкі".**

Электронны адрас рэдакцыі: saf20016@yandex.ru або shulga.checkers@gmail.com.

**Віктар ШУЛЬГА, міжнародны майстар спорту па шашачнай кампазіцыі.**

Адрас рэдакцыі:
220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 3286871.
Тэл. рэкламнага аддзела:
(017) 3286609
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info



Падпісныя індэксы: 63222 – для індывідуальных падпісчыкаў, 632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ



Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 22.02.2016 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 26150 экз. Заказ № 520